Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 2. Вільня, Субота, 21-га лістапада 1925 г. Год I.





## Цяжкія радзіны.

У папярэднім нумары мы падалі вестку аб тым, што п. Прэзыдэнт Рэспублікі даручыў утварэньне новага ўраду Польшчы міністру заграніўных спраў, Аляксандру Скшыньскаму. Апошні і распачаў перагаворы з прадстаўнікамі соймавых польскіх фракцыяў, маючы на мэце ўтварэньне „вялікае коаліцыі“ — знача, аб'яднаньня ўсіх польскіх партыяў, якія і абсадзілі-бы—паразумеўшыся—усе міністэрствы сваімі людзьмі:

Здавалася спачатку, што місія п. Скшыньскага лёгка і згодна будзе даведзена да канца. Даволі сказаць, што яму ўдалося пагадзіць такія—на пагляд—непрымірымыя, рэзка супярэчныя па сваей сацыяльнай ідэалёгіі партыі, як партыю эндэкаў, кулакоў-пястоўцаў і... польскіх сацыялістаў!

Над гэтым прымірэньнем варта крыху больш спыніцца, бо-ж вельмі ўжо „пікантнай“ зьяўляецца тая падстава, на якой п. Скшыньскаму ўдалося пагадзіць *усе* соймавыя польскія партыі. Іменна: пагадзіў ён іх на груньце ўсё яшчэ жывога і над усім пануючага польскага нацыяналізму і імкненьня да апаляччаньня „нацыянальных меншасьцяў“—калі ўжо ня ўсіх, дык прынамся беларусаў і ўкраінцаў. А найярчэйшым выяўленьнем гэтага зьяўляецца факт, што ўся „лявіца“ згодна прызнала магчымым пакінуць надалей міністэрства народнае асьветы ў руках самага ярага нацыяналіста і непрымірымага ворага волі для „меншасьцяў“ у справе разьвіцьця іх нацыянальных культур, п. Станіслава Грабскага.... І гэтая згода больш красамоўна, чым усялякія іншыя доказы, кажа нам аб тым, што, *які-б ні быў склад новага польскага ўраду*, гэты ўрад у адносінах да нашага народу *будзе і далей вясьці палітыку Станіслава Грабскага*!

Але, ня гледзячы на тое, што віленскае „Słowo“ падало ўжо было вестку, што ўрад шчасьліва утвораны, ды што ў ім побач з эндэкам Ст. Грабскім сядзіць пэпээс Морачэўскі,—у апошні мамэнт *„вялікая коаліцыя“ развалілася*. І развалілася яна зусім ня дзеля тых ці іншых прынцыповых разыходжаньняў паміж польскімі партыямі: развалілася яна, дзякуючы неспадзяванаму выступленьню пана маршалка Пілсудскага!

Трэба думаць, што п. Пілсудскі сам не спадзяваўся, каб ягоная дэклярацыя, пададзеная п. Прэзыдэнту, дала гэткія вынікі: пан Пілсудскі сам-жа даў прыклад усім, што ў імя польскага нацыяналізму *можна і сацыялістам цалавацца і дзяліцца ўладай над працоўнымі масамі—з польскай буржуазіяй самых „чорных“ адценкаў*. Мэтай яго было толькі не дапусьціць да назначэньня на становішча ваеннага міністра яго колішняга прыяцеля і аднадумца, а цяпер непрымірымага ворага, ген. Сікорскага. Але якраз затым, што п. Пілсудскі гэтак энэргічна выступіў проці ген. Сікорскага, — якраз затым, што замена Сікорскага некім іншым магла-бы даць пану Пілсудскаму магчымасьць ізноў вярнуцца ў чынную службу ў арміі,—якраз затым эндэкі пачалі рашуча дамагацца, каб становішча ваеннага міністра займаў ген. Сікорскі. І вось гэтае ультыматыўнае дамаганьне эндэкаў прымусіла прыяцеляў пана Пілсудскага ў асобах польскіх „левіцовых“ партыяў адмовіцца ад згоды, хаця яны з зусім лёгкім сэрцам аддалі народную асьвету — гэтую найважнейшую справу дзяржаўнага будаўніцтва—у рукі тыхжа эндэкаў.

Вось, *пытаньне аб асобе п. Пілсудскага* і аказалася тэй падводнай скалой, аб якую разьбіўся чoвен п. Скшыньскага. Прынцыпова польскае грамадзянства зусім аб'ядналася—кощтам перад усім інтарэсаў працоўных масаў—у тым ліку і польскіх — з аднаго боку, правоў нацыянальных меншасьцяў—з другога; але ўся згода разьвеялася, калі ўвайшлі ў ігру *асабістыя амбіцыі павадыроў* гэтага грамадзянства!

## Зьмена ураду у Польшчы.

### П. Скшыньскі зрокся даручэньня стварыць Урад.

Усё было ўжо гатова з новым кабінэтам Скшыньскага, як пісалі варшаўскія газэты, — пэпээсы выпілі брудэршафт з эндэкамі, іх правадыр Морачэўскі пацалаваўся з Ст. Грабскім, як... „раптам, неспадзявана“ ўрад Скшыньскага разваліўся, не пасьпеўшы атрымаць назначэньня ад Прэзыдэнта.

Як пішуць, няўдача Скшыньскага вынікла ў апошні мамэнт—з прычыны асобы ваеннага міністра. На апошняй нарадзе Скшыньскага разам з прадстаўнікамі эндэцыі і ППС дайшло да згоды па ўсім справам (навет у справе школьнай палітыкі Ст. Грабскага...), але спрэчка ўзьнялася толькі і выключна з прычыны асобы п. Сікорскага. Пэпээсы рашуча трэбавалі, каб яго (а Божа барані не Ст. Грабскага!), ня было. Эндэцыя ставіла першым варункам, каб яго, Сікорскага, пакінулі на мейсцы ваеннага міністра. Ведам-ж, што гэткі-ж самы варунак падтрыманьня ўраду Скшыньскага ставілі і „хрысьціянскія абшарнікі“ („дубадэцыя“), работнікі-нацыяналісты (НПР) і інш. Скшыньскі заявіў рашуча, што Сікорскага ня пусьціць у свой габінэт. Тады правіца адмовілася ад уваходу ў коаліцыю. У выніку гэтага Скшыньскі паехаў да Прэзыдэнта і зрокся яго даручэньня стварыць урад.

### Прэзыдэнт даручыў тварэньне ўраду марш. Сойму Ратаю.

П. Прэзыдэнт доўга не хацеў згадзіцца на адмову п. Скшыньскага. І толькі пасьля нарады з прадстаўнікамі галоўных клюбаў новага ўрадавага блёку—эндэцыі, хадэцыі, Пяста і ..ППС, прызнаў яго рэзоны і звольніў яго ад даручэньня. Місія тварэньня ўраду ўзложана на марш. Сойму Ратая, але той, ужо адмовіўшыся ад яе некалькі разоў, цяпер папрасіў сабе 2 гадзіны на развагу...

Ці будзе п. Ратай шчасьлівейшы за п. Скшыньскага, пабачым.

### Характарная заява марш. Ратая.

Новы кандыдат у прэм'еры, марш. Ратай, заявіў прадстаўнікам прэсы, што дзіўнае зьявішча—у сучасны мамэнт у Польшчы ніхто ня рвецца да ўлады... Выразіў свой сумліў і ў тым, ці здалее стварыць парляманцкі габінэт...—Каму-ж ахвота ісьці ў габінэт, задачай якога павінна быць — капітуляцыя на ўсіх фронтах дзяржаўнага жыцьця краю?! Калі місія пана Ратая ня ўдасца, дык, сказаў ён, Прэзыдэнт назавачыць сам непарляманцкі габінэт. Трэба думаць ізноў—з п. Скшыньскім на чале.

### Заява 3-х клюбаў правіцы ў справе кандыдатуры Сікорскага.

3 клюбы правіцы — эндэкі, дубадэкі і хадэкі — згодна заявілі Скшыньскаму, што, згадзіўшыся раней на іншую кандыдатуру на становішча ваеннага міністра (імення ген. Соснковскага), цяпер, пасьля ўсяго, што адбылося толькі-што, лічаць, што цяпер кандыдатура Сікорскага робіцца ня справай асобы, але справай прынцыпу. Бо — зьмяняць ваеннага міністра пасьля таго і за тое, што ён рашуча прыняў меры проці бунтаўнічай акцыі ў арміі, калі ён ахоўвае аўтарытэт дзяржавы і Канстытуцыі, гэта значыла-б — капітуляваць перад пагрозамі бунту... Той урад, які пачаў-бы з гэткай капітуляцыі перад бунтам у арміі, асудзіў-бы сябе на роль пакорнага слугі гэтых бунтаўнічых элемэнтаў арміі, ня здолеў-бы апанаваць іх. Так і здарылася ў Расеі..“

З гэтага відаць, як паглыбіўся крызіс у Польшчы: начаўшыся толькі на груньце фінансава-эканамічнай санацыі, ён захапіў у сваю орбіту і шмат шырэйшыя зьвішчы, няменш небясьпечныя для Польшчы. Трэба памятаць і тое, што справа фінансавай санацыі цесна зьвязана з абмежаваньнем ваеннага бюджэту, ці — выдаткаў на армію... З гэтага лёгка зразумець, які „выбуховы“ грунт мела-бы быццам „пэрсональная“ спрэчка, кінутая ў масы арміі...

### Палітычная барацьба ў арміі разгараецца...

Цэлы рад правіцовых ваенных арганізацыяў выдалі рэзкую адозву да арміі, у якой, абураючыся на абражаючае Маестат Польскай Дзяржавы ўмяшацельства Марш. Пілсудскага ў справу тварэньня ўраду і пагрозы яго Прэзыдэнту, заклікаюць усіх палякоў „супраць гэтых неаблічальных замахаў паставіць сваю патрыятычную волю, гатовую да чыннай абароны дзяржаўнага ладу і волі народу“...

Пад адозвай падпісаны ведамыя саюзы Галлерчыкаў, Довборчыкаў, Вэтэранаў і інш...

### Заграніца аб новай „пілсудчыне“.

Нямецкія газэты даюць вельмі цікавыя весткі аб тых маніфэстацыях у чэсьць Пілсудскага, якія быццам адбыліся ў гарнізоне самай Варшавы. Гэты „бунт“ варшаўскага гарнізону проці ваеннага міністра найбольш настрашыў сталічнае начальства. Радавая прэса сумляваецца, каб Пілсудскі мог запраўды захапіць уладу, бо яго падтрымлівае толькі... англійскае пасольства ў Варшаве, якое быццам дае грошы на агітацыю за яго сярод арміі.

### Ратай адмаўляецца.

**З прычыны розьніцы ў паглядах з ППС на гаспадарчую праграму праектаванага ўраду п. Ратая, апошні зрокся місіі тварэньня габінэту.**

### Капітуляцыя эндэкаў.

**Кандыдат на ваеннага міністра, ген. Сікорскі, у апошні мамэнт зрокся сваей кандыдатуры. Гэтак „вялікая коаліцыя“ ўзнавілася.**

### Ізноў габінэт Скшыньскага.

**Пасьля доўгіх перагавораў паміж партыямі і Бэльвэдэрам у 5 гадз. уначы з 19 на 20 лістапада Прэзыдэнт ізноў даручыў утварэньне габінэту пану Скшыньскаму.**

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Дэманстрацыі безработных.

**„Słowo“ друкуе тэлеграму з Варшавы з 18./XI. „Перад паўднём у многіх мясцох места ўзьнімаліся маніфэстацыі безработных, якія памыкаліся ўтварыць паход і пайсьці перад гмах міністэрства працы“. Паліцыя, ведама, не дапусьціла да гэтага.**

### Перапалох у Варшаве.

Як мы паведамлялі, 14 лістапада маршалак Язэп Пілсудскі зьявіўся да п. Прэзыдэнта Рэспублікі і прачытаў яму сваю „перасьцярогу“ — ад свайго і арміі імя, як асоба, „маючая найвышэйшае становішча ў арміі“... Уся правая польская прэса аж душыцца з абурэньня за гэткае „нахальства“ адстаўнога, дык ня маючага-ж ужо зусім ніякага становішча ў арміі яе былога „начэльнага водза“, што прыйшоў з пагрозамі да таго, хто цяпер, паводле Канстытуцыі, якраз сам зьяўляецца найвышэйшым павадыром і прадстаўніком арміі, як прэзыдэнт...

Але не пасьпела яшчэ „польская апінія“ адыйсьці ад абурэньня, як аказалася, што яе трывога мае значна паважнейшыя падставы. Бо назаўтра—15 лістапада—ў падваршаўскім маёнтачку п. Пілсудскага адбылася ўрачыстасьць 7-х угодкаў яго „зашлюбінаў з Польскай Рэспублікай“, як выражаюцца паны пілсудчыкі... 7 гадоў назад у гэты дзень (тачней—некалькі дзён раней) п. Пілсудскі, звольнены з Магдэбурскага вастрогу, паехаў у Варшаву.

На гэтую ўрачыстасьць да Сулеёўка сабралася штось каля 1000 афіцэраў, заўзятых прыхільнікаў Пілсудскага, з 20 генараламі на чале... Ад імя ня толькі сабраўшыхся, але — ўсей польскай арміі, — генарал Дрэшэр, камандзір варшаўскай кавалерыі, сказаў вельмі „гарачую“ прамову, у якой заявіў нябольш-няменш, як: што ў гэткі ўрачысты дзень, а перад усім у гэткія цяжкія дні крызісу дзяржавы вочы ўсіх зварачаюцца на „каханага Камэнданта“, які „сьмела можа лічыць на нашы сэрцы, але і на адданыя яму на ўслугі нашы шаблі“... Далей адважны генарал-аратар прыпомніў „Камэнданту“ тыя пекныя сьмелыя часы, калі той сам проста, ня пытаючыся ў нікога, стаўся „няпісаным дыктатарам Польшчы“, сьмела захапіўшы ўладу і тым „стварыўшы“ Польшчу, якой бяз гэтага ніколі-б ня было.

На заклік ген. Дрэшэра Пілсудскі адказаў доўгай удзячнай прамовай, у якой успомніў тыя „райскія“ часы, калі ён, уваскрашаючы Польшчу, верыў, што „ў адраджонай Польшчы адрадзілася і польская душа“... Але, нажаль, гэтая вера аказалася манлівай: у адраджонай Польшчы аказалася „залішне многа бруду, бяссільля, праступленьняў“...

Дзе-ж высокі аратар бачыць прычыны гэткага ўпадку Польшчы, які, відаць, пачаўся з таго мамэнту, калі ён перастаў стаяць на чале яе і яе арміі? На гэта—ня можна выразьней — адказвае Пілсудскі:

„Бяссільнасьць Дзяржаве дае той, хто затрымлівае караючую руку справядлівасьці, а наадварот—чэсную і ганаровую працу гэтым штонайменш аслабляе, калі не дэмаралізуе“...

Як сабе ні тлумачыць, хто-ж гэта такі ў Польскай Рэспубліцы мае такую магутную ўладу,—ясна адно, што якраз яго і трэба зьмяніць, замяніўшы, відаць, тым, хто меў і мае сілу і жаданьне стварыць „рай у Польшчы“.

Як толькі справаздача аб гэткім абмене санацыйнымі прамовамі на „ўрачыстасьці“ у Сулеёўку зьявілася ў прэсе, усю „ня-пілсудскую“, а перад усім урадавую Варшаву ахапіла запраўдная паніка..—Усе чуткі аб рыхтаваным „перавароце“ з дыктатарам Пілсудскім на чале здаваліся абапертымі на моцнай рэальнасьці... Справа магла не абмежавацца толькі скандалам. Ваенны міністар Сікорскі рашыў зараз-жа прыняць рашучыя меры. Выдаў зараз-жа 2 прыказы па арміі, рашуча пад страхам судовай адказнасьці забараняючы ўсялякія палітычныя маніфэстацыі ваенных асоб, „як пагражаючыя незалежнаму быту Польшчы“... „Адважнага“ ген. Дрэшэра, як галоўнага павадыра пілсудчыкаў, зараз-жа перавёў з Варшавы ў Пазнань... А галоўнае, як сьцьверджана пасламі вызваленцамі, зараз-жа—на ўсялякі выпадак — даў загад ваенным уладам сталіцы прыняць асаблівыя меры, каб забясьпечыць ахову Варшавы... Хаця мін. Сікорскі і „прастуе“ гэтую вестку аб „ваеннай трывозе“ ў Варшаве, аднак-жа, яго ўласны загад аб назначэньні новага тымчасовага камэнданта Варшавы ясна пацьвярджае яе... Можа, запраўды ня было нічога страшнага, а можа ген. Сікорскі і мае права на падвойныя ляўры „збаўцы Айчызны“—аднолькава ад небясьпекі справа (пасьля забойства Нарутовіча), як і зьлева—цяпер?!

### „Свая рука ўладыка“.

Падаўшыся ў адстаўку, замест таго, каб папасьці ў вастрог, прэзэс Польскай Касы Ашчаднасьці, п. Ліндэ, былы міністар фінансаў Пястова-Хіенскага ўраду (—добрая школа!)—вось як карыстаўся з быўшых пад яго загадам і ахоўвай ашчаднасьцяў насяленьня краю.

45.000 злотых пазыкі (ў форме гарантыі) атрымаў з Касы перад усім — родны брат пана старшыні...

Па 45.000—на куплю ўласных палацаў—атрымалі тры вышэйшыя ўрадоўцы тэй-жа Касы. Ня гледзячы на тое, што ўсе яны маюць ужо казённую кватэру ў гмаху Касы... Ня гледзячы і на тое, што той фонд, з якога гэтыя паны пабралі сабе пазыкі, назначаны законам—дзеля запамогаў бяднейшым урадоўцам у канечнай патрэбе і нешчасьлівых выпадках.. Кожны з гэтых трох „бяднейшых“ урадоўцаў атрымлівае, апрача казённай кватэры, па паўтары тысячы злотых пэнсіі ў месяц...

Апрача гэтага, цэлы рад вышэйшых урадоўцаў атрымлівалі ад п. Ліндэ з Касы вялізарныя „залічкі“ і „беззваротныя дапамогі“ — тысячамі злотых...

Газэты ўспамінаюць дарэчы, што рабілася ў тэй-ж Касе п. Ліндэ ў часе інфляцыі, калі марка таяла, як сьнег на пячы,—калі, значыць, усякая пазыка ў Касе раўнялася падарунку. Дык сам Ліндэ ўзяў тады ў розныя часы „пазыкаў“ і „залічак“ на круглую суму—14 мільярдаў і 700 мільёнаў марак. Яго вышэйшыя таварышы па „ахове ашчаднасьцяў“ насяленьня не адставалі ад „спрытнага“ старшыні: нейкі Яноўскі ўзяў 6 з паловай мільярдаў, Желеховскі — больш за 10 мільярдаў, Дзержановскі—7 з лішкам мільярдаў.. Красіцкі—5 з чверцяй мільярдаў...

І ніхто з гэтых паноў ня сеў за рашотку!

### Прафэсар—фальшываманэтчык...

Вялікую сэнсацыю выклікала выкрыцьце ў кватэры польскага прафэсара Львоўскай Палітэхнікі цэлай добра наладжанай фабрыкі... амэрыканскіх даляраў! Фабрыкант фальшывых даляраў п. Пайкарты арыштаваны.

## Заграніцай.

### Сэсія Лігі Народаў.

7-га сьнежня пачнецца ў Жэневе 37 сэсія Лігі Народаў. На павестцы дня пастаўлена пытаньне аб Мосуле і грэцка-баўгарскім пагранічным канфлікце.

3-га сьнежня зьбярэцца гаспадарчая камісія рады Лігі Народаў.

### Канец акупацыі Кельнскага абшару.

Рада Паслоў (Антанты), пры ўчасьці ваенных экспэртаў і самога Фоша, пастанавіла: да 1 сьнежня (дзень падпісаньня ў Лёндане Лёкарнскага пакту) эвакуаваць Кельнскі абшар, значна палягчыць акупацыю ў Надрэніі, паставіўшы там на становішчы Камісара немца, зьменшыць усюды лічбу акупацыйных войскаў, значна пашырыць правы нямецкага судаходзтва і—абвясьціць амністыю для цэлага раду праступленьняў проці акупацыйных уладаў.—Усё каб толькі Нямеччына падпісала Пакт.

Чэмбэрлен ад імя Англіі абяцуе Нямеччыне яшчэ розныя ўступкі—у справе калёніяў, спакушаючы нават уступіць палову... не належачага яшчэ да Англіі Мосулю з яго нафтай!

Нямецкія нацыяналісты аказалі вялікую ўслугу краю... Тым — яшчэ нездаволеным — сам Гіндэнбург дасьціпна адказаў так: „Тое, што атрымала Нямеччына пасьля Лёкарно, павінна смакаваць кожнаму, хто памятае варункі міру ў 1918 годзе... А той, у каго наагул кароткая памяць, зусім не павінен займацца палітыкай“.

### Зазлаваўся.

Мусоліні, зазлаваўшыся на англійскую прэсу, якая вельмі неспачуваючы яму пісала аб „замаху“ на яго асобу, адмовіўся ад асабістага візыту ў Лёндан дзеля падпісаньня Лёкарнскіх трактатаў і высылае туды дэлегата ў Лізе Народаў Скіалёйю.

### Перамены ў чырвонай арміі.

Новы камісар вайсковых спраў Ворошылаў паклікаў з Менску Тухачэўскага, быўшага камандзіра радавай арміі ў часе польска-радавай вайны, і назначыў яго начальнікам штабу чырвонай арміі на месца Каменева, а Каменеў назначаны інспэктарам арміі.

### Англія купляе эстонскія карабельныя заводы.

Вядомыя эстонскія карабельныя заводы ў Рэвэлі купіў з ліцытацыі эстонскі банк, які, ня могучы кіраваць імі, стараецца прадаць іх заграніцаю.

Англійская фірма, спэцыяльнасьць якой — будаваньне падводных лодак,—хоча ў Эстоніі купіць гэтыя заводы. Эстонскі ўрад яшчэ не згадзіўся на гэтую прапазыку, бо баіцца, каб ССРР не запратэставаў проці адданьня карабельных заводаў на Балтыцкім моры ў рукі Англіі.

### 10-х гадзінны дзень працы ў Літве.

Літоўскі Сойм прыняў у другім чытаньні ўстаў аб 10-х гадзінным дні працы ў прамыслах і гандлі.

# Найважнейшая патрэба.

(Артыкул для дыскусіі).

Чытаючы віленскія беларускія газэты, на жаль, ня прыходзіцца спатыкаць ніводнага артыкулу, пасьвячонага пашырэньню беларускае кніжкі.

Што гэтае пытаньне — найактуальнейшае з усіх актуальных, найбалючайшае з усіх балючых пытаньняў нашага сучаснага дня, ня трэба гэтага даводзіць, калі мы пабачым, што беларуская выдавецкая праца амаль-што спынілася, бо на нашым кніжным рынку пануе страшэнны застой. Кніжка зрабілася якбы нечым непатрэбным, без чаго можна жыць і абхадзіцца. „Ня толькі сяляне, але нават інтэлігенцыя ня купляе кніжак (апрача падручнікаў)“—скардзіцца наш кнігар.

Праўда, ува ўсім краю пануе эканамічны застой, народ душыцца ад безграшоўя і пад цяжарам падаткаў. Шмат ёсьць такіх сялян, якія ня маюць за што купіць найпатрабнейшых рэчаў, як соль, газа, серчыкі і т. п. Але ўсё-ж такі ня мала ёсьць і багацейшых сялян — беларусаў, якія жывуць у дастатку і маюць свабаднейшы грош. Бываючы на кірмашох, часта прыходзіцца бачыць, як сяляне, зрабіўшы тую ці іншую гандлёвую транзакцыю, пасьля п'юць барышы, марнуючы столькі грошы, што за іх можна-б было колькі вёсак абдзяліць кніжкамі!

Несьвядомасьць, адсутнасьць родных школаў і эканамічны крызіс—вось гэта галоўныя шкоднікі на шляху беларускае кніжкі.

Але ёсьць яшчэ іншая прычына, захаваная дзесь глыбей, гэта—наша ўласная вядбаласьць, ды гэта хоча насьледаваць нават наша прэса. Замест біць па трывогу, клікаць усе жывыя чыньнікі на помач, скоордынаваць усе нашыя сілы ў адным напрамку, шырока рэклямаваць нашу кніжку, зрабіць яе даступнай для нашага селявіна, — газэты займаюцца бадай выключна палітычнымі справамі.

Не памятую, хто сказаў, але сказаў вялікую рэч, што „беларуская **палітыка** апярэдзіла беларускую **культуру**“,—а гэта два чыньнікі, якія павінны йсьці дружна нага ў нагу, плячо ў плячо. І вось тагды, як мы рукамі і нагамі баронімся на палітычнай арэне, мы павінны адначасна свае сілы скіраваць і на пашырэньне беларускай кніжкі. Патрэбу гэтага даказываць лішне, гэта ясна нават кождаму анальфабэту (ня граматнаму). Дык вось, хай чэсная беларуская прэса не шкадуе месца на прапаганду пашырэньня роднай кніжкі, хай прыгатовіць грунт для будучае працы выдавецтваў.—Гэта яе найбольшае сучаснае заданьне.

Але без падтрыманьня ўсяго беларускага грамадзянства ніякая праца немагчыма. Трэба зацікавіць у гэтым напрамку нашае грамадзянства, трэба прывучыць як сьвядомых, так і несьвядомых сялян да роднае кніжкі, каб кожны зразумеў, што кніжка (а перад усім родная) патрэбна чалавеку, як здароўе, хлеб, вада, паветра. Што бяз роднай кніжкі няма мовы аб культурнасьці чалавека. А гэта зрабіць вельмі лёгка, толькі трэба ахвоты і працы.

На вёсцы мы маем шмат безработнай інтэлігенцыі, якая ад шчырага сэрца хацела-б памагчы ў цяжкой нядолі роднаму краю, але пазбаўлена магчымасьці, бо ня мае да чаго рук прылажыць: ўсе ад яе адабрана—і школы, і ўрады, і іншая праца. А праз нястачу працы ня можа чалавек зарабіць нават аднаго граша на свае элемэнтарныя патрэбы. Ніхто ня верыць цяпер у біблейскую манву, якая сама спадала з неба. Кожын ведае, што ўсё здабаваецца працай і то цяжкой, мазольнай працай, бо і час жыцьця нашага цяжкі. Дык хай наша безработная інтэлігенцыя возьме на сябе ня малы цяжар **распаўсюджываньня беларускае кніжкі**. Няма такога мястэчка, у якім раз, або колькі разоў у месяц не адбываліся-бы кірмашы. З далёкіх куткоў зьяжджаюцца людзі на кірмаш, — і чаго, чаго няма на тым кірмашу!... Толькі роднае кніжкі, беларускае кніжкі там запраўды-ж няма. Даўней, перад вайной, ніводзін кірмаш не абходзіўся без маскалёў з іх абразамі і кніжкамі выданьня Сытина. Чаму-ж цяпер ня можам пралажыць дарогу для роднай кніжкі на кірмаш? — Прычынай наша нярухавасьць: сьпім, чакаючы манны з неба.

Пара, даўно ўжо пара, каб у кожным мястэчку на кірмашу прадаваліся родныя кніжкі. І калі-б прадалося столькі кніжак на кірмашы, сколькі прадаецца там у той дзень бутэлькаў гарэлкі (ня гледзячы на заборону!), дык нашыя выдавецтвы і друкарні былі-б завалены працай, а лік новых выданьняў ня лічыўся-б на дзесяткі (як цяпер), а на сотні. Прадавец кніжак зарабіў-бы ня мала грошаў, натуральна, залежна ад яго здольнасьці і працавітасьці. Як-ні-як, а мне здаецца, што, прадаючы кніжкі ў кірмашовы дзень, можна мець у сярэднім чыстага заработку сорак — пяцьдзесят злотых, а гэта ўжо не малы плюс у жыцьці безработнага вясковага інтэлігента.

Дык вось я падаў толькі сваю думку. Хай Беларуск. Выдавецкае Таварыства распрацуе яе, хай уложыць спэцыяльныя варункі, на якіх-бы кнігарня магла адпускаць кніжкі з вялікай скідкай для вясковых прадаўцоў, хай уложыць камплекты сялянскіх бібліотэчак з кніжак найбольш папулярных на вёсцы. А ўжо людзі — прадаўцы напэўне знойдуцца. Толькі трэба, каб прэса, нашыя паслы і сэнатары, паасобныя дзеячы і наагул усе сьвядомыя беларусы паступова прыгатавалі грунт да пашырэньня кніжкі на вёсцы. Каб гэтае найважнейшае пытаньне паставілі на першую чаргу свaей плоднай дзейнасьці. Каб усім, хто захоча прадаваць кніжкі на вёсцы, служылі радай, помачай, грашмі, абаронай і т. п.

**Янка Маланка.**

### Сьцяпан Радіч проці расейскай чорнай сотні.

Сьцяпан Радіч сказаў, паміж іншым, што ўжо настаў час, каб расейская эміграцыя вярнулася з Югаславіі на бацькаўшчыну—у Расею.

Чуткі, што эміграцыі на павароце ў Расею грозіць небясьпека,—ні на чым не аснаваны.

Гэты факт выклікаў вялікае парушэньне і страх сярод расейскай эміграцыі ў Югаславіі.

### Магчымы габінэтны крызіс у Сэрбіі.

„Політыка“ наказуе аб магчымасьці адстаўкі прэм‘ера і габінэту.

### Вынікі выбараў у Чэха-Славакіі.

85 проц. маючых права выбіраць прымалі ўчасьце ў галасаваньні. Выбары далі гэткія вынікі: Рэспубліканскія земляўласьнікі—24 мандаты; Чэха-Славацкія людоўцы — 24 мандаты; чэха-славацкія сацыялісты, (скуль і міністар заграцічных спраў п. Бэнэш) — узмацаваліся да 17 ман.; чэха-славацк. сац.-дэмакраты — аслабелі, дастаўшы — 18 ман.; чэха-славацк. народна-дэмакратыя асалбела—5 ман.; нямецкія земляўласьнікі 12 ман.; нямецкія сац.-дэмак.—10 ман.; нямецкая хрысьціянская група—6 ман.; нямецкая народная партыя 4 ман.; нямецкія народнікі—11 ман.; нямецк. народ. сацыялісты—2 ман.; камуністы—20 мандатаў і палякі 1 мандат.

### Паражэньне французаў у Сірыі.

З Лёндану пішуць, што ў Сірыі паўстанцы нанясьлі французам вялікае паражэньне, адкінуўшы іх да самай палестынскай граніцы.

### Палажэньне ў Кітаі.

У сувязі з вытварыўшымся палажэньнем у Кітаі, Японія загадала свайму войску безадкладна заняць чыгунку Пэкін-Муадэн. Увесь флёт Японіі гатовы да ваенных апэрацыяў. Японія сказала, што ні за што не дапусьціць да бальшавізацыі Кітаю.

У сувязі з падзеямі ў Кітаю Радавы пасол Карахан, які быў дагэтуль у Маскве, сьпешна выехаў у Пэкін.

Цяперашні кітайскі ўрад выдаў дэкрэт, згодна з якім ген. Ву-Пэй-Фу прызнаецца бунтаўшчыком.

Ген. Фэнг, перагрупоўваючы сваі войскі, адыхсдзіць ад Пэкіна да Калгану, адступаючы перад ген. Ву-Пэй-Фу, хоць тры арміі Чанг-Тсо Ліна, які не прызнае пэкінскага ўраду, з трох бакоў падыходзяць да Пэкіну.

Японскія мінаносцы кружацца каля берагоў Шантунга дзеля абароны жыцьця і дабра японскіх грамадзян у часе ўсяго неспакойнага пэрыяду вайны.

## ХРОНІКА.

**10-ыя ўгодкі беларускае школы.** З прычыны дзесятых угодкаў беларускае школы, у суботу, 14-га лістапада, адбылася ўрачыстасьць у Віл. Беларускай Гімназіі. Пасьля ўступнага слова дырэктара гімназіі, п. Астроўскага, прамовіў да сабранай моладзі вучыцель гімназіі, п. Луцкевіч, які абрысаваў падробна гісторыю стварэньня беларускае школы і барацьбу за яе пад нямецкай акупацыяй, у чым сам прымаў учасьце, а пасьля коратка адзначыў далейшае разьвіцьцё беларускага школьніцтва. Пасьля прамоваў пяяў беларускі вучнёўскі хор пад кіраўніцтвам вуч. Шнаркевіча і іграў вучнёўскі аркестр пад кіраўніцтвам п. Дзешкіна.

Назаўтрае, 15 лістапада, на агульным сходзе Т-ва Беларускае Школы гэтаму вялікаму юбілею пасьвяціў сваю прамову пасол Рак-Міхайлоўскі, нарысаваўшы гісторыю беларускае школы за гэтыя 10 гадоў.

**Агульны гадавы сход Студэнтаў — Беларусаў.** У нядзелю 22/XI 1925 г. адбудзецца агульны гадавы сход Студэнтаў—Беларусаў—

з наступным парадкам дня: 1) Справаздача уступаючага ўраду, 2) Справаздача рэвізыйнае камісіі, 3) Абгаварэньне працы на прышласьць, 4) Выбары новага ўраду і рэвізыйнае камісіі і 5) Розныя.

Сход адбудзецца ў памешканьні Цэн. Беларускае Школьнае Рады (Віленская 12 — 6) у 4 гадзіны папаўдні.

Калі сход ня зможа адбыцца з прычыны браку кворуму ў 4 гадз., то адбудзецца другі сходу 5½ гадз., пастановы якога будуць правамоцны пры ўсялякай колькасьці сяброў.

**Суд над рэд. Шылам.** 18/XI 1925 г. адбыўся суд над п. Шылам, рэдактарам „Змаганьня“, „Сына Беларуса“ і „Голаса Беларуса“. Вінавацілі яго з 129 арт. Суд у складзе судзьдзяў: Ёдзевіча, Контовта і Пілсудскага засудзіў п. Шылу за артыкулы, зьмешчаныя ў пераліčаных газэтах, якія баранілі нацыянальныя і сацыяльныя правы беларускага народу, — на **1 год катаргі, не залічыўшы яму тых сямёх месяцаў, якія ён сядзеў да суду, і пазбавіў п. Шылу ўсіх правоў.** Абвінавачваў п. Шылу падпракурор Місевіч. Бараніў адв. п. Міцкевіч. Беларускае грамадзянства да глыбіні парушана гэтак суровым прыгаворам суду.

**Прысуд над камуністамі.** Акружны суд у Наваградку 16/XI засудзіў трох камуністаў на сьмерць за тое, што яны стралялі ў паліцыю, калі іх хацелі арыштаваць. Бараніў іх адвак. Гонігвіль.

**Замах на цягнік** „Dz. Wil.“ піша, што 17/XI паміж станцыямі Горадня—Масты быў зроблены замах на цягнік. Былі паложаны на рэльсы дзьве шпалы, моцна прымацаваныя да рэяк. Машыніст гэта заўважыў, затрымаў цягнік, і замах ня ўдаўся.

Падазраваюць, што замах зрабілі жыхары суседніх вёсак. Западазроных, як звычайна бывае, арыштавалі.

**Новае ўсіленьне вынятковага стану на „Крэсах“.** Міністар унутраных спраў апублікаваў новы, выданы ім бяз учасьця Сойму і Сэнату,—„закон“, паводле якога „юрыдычна“ значна пашыраюцца і без таго фактычна неабмежаваныя нічым правы і паўнамоцтвы адміністрацыйна-паліцэйскіх уладаў на „крэсах“. У ваяводзтвах Віленскім, Наваградзкім, Палескім і Валынскім п. Рачкевіч даў панам старостам і іх агентам права накладаць на грамадзян штрафам да 50 злотых, ці арышт да 3 дзён—„за нарушэньне распараджэньняў адміністрацыі“. Паводле новага „закону“, выданага п. Рачкевічам, даволі будзе панам войту, солтысу ці якому паліцыянту зрабіць „данясеньне“ аб гэтым нарушэньні, а пану Старосьце „праверыць“ апошняе праз свайго агента (як быццам войт, солтыс ці паліцыянт, ня гэткія-ж самыя агенты старосты),—дык беларус ці ўкраінец (бо-ж гэты „закон“ ведама, толькі для іх выдуманы)—або плаці, або сядзі. Праўда, вінаватаму даецца 8 дзён для падачы скаргі, але — кожны ведае, што значыць скарга, калі пан староста ўжо „праверыў“ данясеньне пана паліцыянта.

**Зладзействы на правінцыі вылазяць наверх!** Сьледам за Сьвянцянскім і Стаўпецкім паветамі „адрыгнуліся“ зладзеям-урадоўцам пакрадзеныя грошы ўжо і ў Дзісеншчыне.

„Słowo“ інфармуе, што ў Глыбокім рэфэрэнт староства, пан Ян Зенкевіч, сыстэматычна краў скарбовыя грошы. Пасьля арышту сам ён прызнаўся да кражы 4.000 злот. Спадзяюцца, што будзе адсунуты ад урадаваньня і пан староста Ковалевскі, бо зладзействы Зенкевіча рабіліся сыстэматычна ў працягу даўжэйшага часу і, як піша „Słowo“, „не павінны былі прайсьці, не зьвярнуўшы ўвагі пана старосты“...

**„Забавы“ паноў асаднікаў.** Ведама, што нарыхтаванае на кагось іншага аружжа заўсёды можа быць скіравана і проці „свайго“, а часам і проці сябе самога. Дык вось, часам гэтае і здараецца на нашых перагружаных аружжам (праўда, толькі на адным баку!) многапакутных „крэсах“.

У сяле Максімаўцы, каля Радашкавіч, у часе вясельля праз вакно ў пакой, поўны гасьцей, кінута ручная граната, выбухам якой забіты 1 пагранічнік і ранены 5 іншых жаўнераў і 6 цывіляў. Зараз-жа на мейсца выбуху прыбылі ваенныя і судовыя ўлады. Дазнаньнем устаноўлена, што бомбу кінуў польскі асаднік Вацлавскі.

Так сабе кінуў—бо, відаць, меў у сябе гранатаў шмат, дык што-ж там значыць адна?!

**І ў магістраце крадуць...** Віленскі магістрат даўно мае ліхую славу адносна да „проворства рук“, як кажуць расейцы. Факты пацьвярджаюць гэта.—Так, у сёлетнім годзе выкрылася ўжо трэцяе зладзейства: касірша Фрычыньска абкрадывала электрычную касу ў працягу некалькіх гадоў і ўрэшце сёлета (ведама, прыпадкова!) папалася на гэтым. Сьледам за ёй пайшоў сэквэстратар Тучыньскі, а вось, тры тыдні назад „зьнік“ эканом мястовае бальніцы Костровіцкі, пасьля чаго выкрылася нястача 6.000 злотых.... І ўсе гэтыя паны—„z dobrych rodzin“ і „z towarzystwa“.

**Обст дастукаўся!** Ведамы сваей бясчэльнай брахлівасьцяй і зьвягай на ўсё, што нязгодна з людаедзкімі ідэаламі эндэкаў, рэдактар „Dz. Wil.“ Іоганн, сын Гэрмана, Обст („истинно-польский“ немец!), у сувязі з апошнімі палітычнымі здарэньнямі, паводле свайго звычаю, выліваў цэлыя ўшаты брудаў на асобу марш. Пілсудскага. Відаць, гэта абурыла афіцэраў-пілсудчыкаў, бо два з іх, зьявіўшыся ў рэдакцыю „Dz. Wil.“, адказалі на гэта Обсту такім-жа „культурным“ спосабам: „мордабойствам“...

## Пісьмо у рэдакцыю.

*Паважаны*

*Пане Рэдактар!*

У № 13 „Жыцьця Беларуса“ была надрукавана карэспандэнцыя з Нясьвіжскага павету пад загалоўкам: „хцівы поп“. Гэтая карэспандэнцыя падае факты, зусім нязгодныя з праўдай.

І ў імя гэтае праўды я, заяўляючы, што проціў аўтара заметкі буду змушаны выступіць з судовай справай за публічную абмову мяне, як духоўнай асобы, зьвяртаюся да Вас з просьбай зьмясьціць гэтых некалькі слоў.

А. Саўчанка ня жыў у маім прыходзе гадоў ужо 16. Дзе быў, што і як—ня ведаю. А дзеля таго, што і пасьля прыезду ён ня выконваў абавязкаў культу — ня бываў у споведзі і г. д. — дык я аб ім нічога і ня ведаў. І калі С. зьвярнуўся да мяне з просьбай выдаць яму пасьведчаньне, што ён жанаты, я, не маючы падстаў для выдачы гэтага пасьведчаньня, мусіў адказаць яму адмоўна, паясьняючы, што гэтае пасьведчаньне пры даных варунках можа быць выдана толькі на падставе пасьведчаньня паліцыі ці іншае ўлады, якая-б дазнаньнем сцьвярдзіла, што ён запраўды нежанаты. Праз некалькі месяцаў С. зноў прыйшоў да мяне з пасьведчаньнем гміны, што ён быццам нежанаты. Аднак, дзеля няяснасьці гэтага пасьведчаньня, я мусіў ізноў адмовіць. Тады Саўчанка зьвярнуўся да Пінскага япіскапа з жалабай на мяне і сьвяшчэньніка Клецкай царквы, які адмовіўся вянчаць яго без пасьведчаньня, якое вымагае закон. Пасьля сьледзтва выясьнілася, што мы тутака ні пры чым, бо па закону не маглі іначай паступіць. І ўказам Пінскай Кансысторыі з дня 27/VIII с. г. за № 4095 аб гэтым быў паведамлены і Саўчанка. Тады толькі Саўчанка выканаў неабходныя фармальнасьці: даставіў сьведкаў, якія пад прысягай сцьвердзілі, што ён нежанаты. Пасьведчаньне можа быць яму выдана. Але ён не бярэ, бо ня мае яшчэ нявесты. Пры гэтым ніякіх патрабаваньняў заплаціць неякіх 100 зл. і то ў форме ўльтыматума я, канешна, ня ставіў. Гэта—цалком няпраўда, таксама як і тое, што, як сказана ў заметцы, быццам справа „павісла ў паветры“ з прычыны таго, што С. малазямельны і ня можа заплаціць гэтае сумы. Не атрымоўвае ён пасьведчаньне па сваей волі, а справа выдачы гэтага пасьведчаньня ўжо закончана.

Прыміце выразы паважаньня:

Протоіерэй **І. Новіцкій.**

**Ад Рэдакцыі.** Рэдакцыя сцьвярджае, што сьв. Новіцкій прадставіў ёй дакумэнты, якія пацьвярджаюць ягоныя словы.

## З творчасьці наймалодшых.

### ВЕЧАР.

Загарэлася места... Як сьветлячкі, зусюль засьвяціліся ваганькі, брызнула станцыённае сьвятло над чорнымі сылуэтамі дахаў... Загарэліся зоры... У адчыненае вакно льецца ціхі шум вуліц, разгульная ігра гармоні, разудалая, п‘яная песьня...

„Солнце всходит и заходит,
А в тюрьме моей темнооо!“...

Скардзіцца мяккі тэнар... І яму, як-бы ў адказ, заліваецца гармонік нейкай сумнай мэлёдыяй... Нібы кажа: „цяжка, брат, жыць!

Зьвіняць дзьверы крамаў... Цямнее й глушэе вуліца,—заціхае жыцьцё... Толькі ў падвале пяе ўсё гармонь, а тэнар канчаець:

„Не летать мне, как бываало...
Темноой ночкой по лесам“...

Што ён хоча сказаць? Ці выплакаць сваю нядолю, ці так прагнаць смутак з сэрца?

Высака, высака блішчаць зоры... Вось адна далёкая, прыгожая то ўспыхне, то ціхім, негім сьвятлом углядаецца, глядзіць, — то зноў міргае, мігціць, дрыжыць...

Сколькі іх, гэтых зор?

Упіваешся іх пекнатой, а яны, як-бы дзяўчаты-русалкі, вабяць да сябе пагляд — у незразумелы прастор,..

Загарэлася места... Як сьветлячкі, там і тут, бліжэй і далей, задрыжэлі ваганёчкі...

Брызнула станцыённае сьвятло над сылуэтамі дахаў... І здаецца—недзе далёка-далёка ёсьць прастор, заліты зьзяньнем, сьвятлом...

А тэнар пяе:

Ты взойдии соолнце красное!

І ў адказ яму адзін, другі, трэці голас:

„Солнце красное“!

Нібы туды, у падвал, ніколі не сьвяціла сонца, што стуль бачыўся толькі кавалак халоднага неба, усеянага сьветлячкамі-зорамі!..

Зьнекуль данасіліся п‘яныя гукі рояля: хтось іграў вальс „Шопэна“.

1925. **Малады.**

## Карэспандэнцыі.

### „Смакуюць пралетарскія качкі“.

(З Дзісеншчыны).

Чыталі мы калісьці ў нашых газэтах, як недзе адзін пан страляў і еў вясковых парасят. Вядома-ж, парасяціна—рэч смачная, але іншаму пану і яна не смакуець. Гэтак пану Урбановічу з маёнтку Палівачоў, Прозароцк. гміны, засмакавалі качкі, якіх чатыры штукі трымала жыхарка гэтага маёнтку, бедная ўдава Хайка Сьвідляр і напэўна гадавала іх на васеньнія сьвяткі. Толькі ня прыйшлося беднай удаве пакаштаваць на кучкі качак, бо яны неяк вылезалі з хлява і ўздумалі пабаўтацца ў сажалцы. Ваяўнічы пан Урбановіч зараз-жа забраў качак, адсёк ім галоўкі і адаслаў гэтыя галоўкі ўдаве,—а качак зьеў сам. Пэўна-ж смакавалі,—бо чужыя і прыйшліся лёгка. Толькі, панок, часам і смачнай стравай можна падавіцца!..

Гэты-ж пан добра ведае арытмэтыку, асабліва прагрэсіі. Гэтак яшчэ ў ліпні ён мусіў вычысьціць і выкапаць равы па бакох дарогі, якая ідзе праз маёнтак і абапал якой стаіць некалькі хат, якія пан Урбановіч здае ў арэнду. Дык, каб аберагчы свой кішэнь ад выдатку, а рукі ад працы,—пан цяжар працы ўздумаў перакласьці на карк кватарантаў і загадаў ім заплаціць яму за чыстку равоў па 3 зл. ад кватэры. Але на другі дзень абдумаўся і заявіў, што гэта мала, а трэба па 6 зл.,—на што кватаранты (каб ня страціць ласку „вяльможнага“) зноў згадзіліся. Але прагавітасьць панская разгулялася, і на трэйці дзень Урбановіч заявіў, што і па 6 зл. мала, а трэ‘ па 15 злот. Тутака ўжо жыхары, хоць і ня ўласку панскую, але адмовіліся ад гэтакай прагрэсіі, якая расла-б з кожным днём.

Адным словам, гора жыхарам гэтага маёнтку з усіх бакоў. Вядома, улетку—і курыца ня туды трапіць, і кароўка куды ня трэба залезець, а за ўсё прагрэсія без канца. Усе ўздыхаюць і з сумам успамінаюць даўнейшага Палівачаўскага пана—з душой і сэрцам—с. п. Ігната Буйніцкага, за якім жылося маёнтковаму пралетару лёгка, добра і без усялякіх прагрэсіяў. Былі цэлыя і качкі, бо ім не забараняпася купацца ў сажалцы.

**Зязюля.**

### Клапацяцца ўсе.

(З Міжавіцкае гм., Слонімск. пав.).

Амаль што ня ў кожным нумары чэсных беларускіх газэт чытаем мы пра вялізарныя па-

# Сяляне! Дамагайцеся роднае беларускае школы!

## Падавайце дэкларацыі да 31 сьнежня с. г.

Усе інфармацыі і ўзоры дэкларацыяў атрымаеце ў Цэнтральнай Беларускай Школьнай Радзе ў Вільні, Віленская 12, кв. 6.

даткі, пра штрафы, арышты і розныя крыўды, чыненыя мужыку-беларусу. Усё гэта ня мінула і нашай акругі. Як і па ўсёй Зах. Беларусі, народ наш вясковы стогне ад усялякіх пабораў і вымаганьняў. Падаткі за падаткамі, „nakazy płatnicze“ за „nakazami“, і канца ня відаць. А тут яшчэ ня так даўно зьявіліся ў нашай гміне якія-сь паны „kominarze“ і пачалі прачышчаць у кожнага гаспадара коміны, ня гледзячы на тое, ці трэба іх чысьціць, ці не, і за кожны комін патрэбавалі па 50 гр. платы. Коміны прачысьцілі, ці не, а па 50 гр. ўзялі з кожнага, а хто не заплаціў, на таго пратакол. А далей, ведаеце, што бывае з пратаколамі? Не пасьпелі ад'ехаць „kominarze“, як прыехалі да нас „malarze“ і загадалі, каб кожны гаспадар прынёс па 1 злоту, за што гэтыя маляры напішуць па дзьве дошчачкі: адну да хаты прыляпіць, а другую да возу прычапіць. Тут ізноў, хто не заплаціў, дык маляры сказалі, што праз начальства зышчуць удвая ці ўтрая даражэй. Праўда, паехалі ўжо ад нас і маляры, але народ, чакаючы іншых дабрадзеяў, кажа, што неўзабаве павінны прыехаць і паны „slósarze“, якія за сваю акуратную работу вазьмуць куды больш за першых і другіх, бо ім прыдецца з кожнага жыхара зьнімаць мерку, каб штучкі, якія будуць рабіць сьлёсары, прыйшліся як раз да рукі...

Адным словам, аб дабро мужыка-беларуса клапацяцца ўсе: і „kominarze“, і „malarze“, і „slósarze“, і іншыя ...„arze“.

**А. Блажук.**

## З Радавае Беларусі.

### Народная асьвета ў БСРР.

Да вайны на абшарах сучаснай Радавай Беларусі **пачатковых вясковых школ было 2.930**, у 1924-25 навучальным годзе іх ужо было **3,636**, а ў 1925-26 — **3.978**; процант вучняў ад 8 да 11 гадоў у вясковых школах да вайны, у адносінах да агульнага ліку дзяцей гэтага ўзросту, быў **39**, у 1924-25 годзе гэты процант быў 66, а ў 1925-26 навучальным годзе—каля 68 проц. Рух школьнае асьветы па лініі сацыяльнага выхаваньня ў БСРР за 3 апошнія навучальныя гады вызначаецца:

| ГАДЫ: | Агульны лік устаноў | Пэдагагічн. пэрсанал | Лік вучняў |
|---|---|---|---|
| 1923—24 . . . . | 3.904 | 7.543 | 287.149 |
| 1924—25 . . . . | 4.155 | 8.133 | 336.577 |
| 1925—26 . . . . | 4.279 | 8.630 | 351.737 |

Царскі ўрад не даваў магчымасьці вучыцца належнаму ліку дзяцей у школах, тым больш ён нічога не рабіў для ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага жыхарства. За тры апошнія гады гэтая справа значна пашырылася. Так, агульны лік вучняў у лікпунктах БСРР у 1923-24 навучальным годзе быў—8.169, у 1924-25—43.870, у 1925-26 годзе—60.000. Адных дзяржаўных сродкаў на ліквідацыю няпісьменнасьці ў 1924-25 годзе было выдана 119.573 р., а на 1925-26 год асыгнавана 213.491 р.

**Вышэйшае асьветы** да рэвалюцыі на абшарах Беларусі, як вядома, ніякай ня было; у цяперашні час тутака ёсьць чатыры ВУЗ'ы (вышэйшыя школы) з 3.836 студэнтамі і тры рабфакі з 825 студэнтамі. У былы час у ВУЗ'ах амаль што ня было дзяцей сялян і рабочых, цяпер у ВУЗ'ах БСРР дзяцей сялян 32 проц., рабочых—21 проц., рамесьнікаў—18 проц., служачых—14 проц. і інш. —15 проц.

Асабліва значна пашырылася асьветная справа ў бягучым 1925-26 годзе, дзякуючы асыгнаваньню належных сродкаў: па дзяржаўнаму каштарысу сродкі ў 1925-26 годзе на народную асьвету, у параўнаньні з 1924-25 годам, павялічыліся на 91 проц., па мясцоваму бюджэту—на 49 проц., наагул—65 проц. Выдаткі на асьвету ў 1924-25 годзе складалі па дзяржаўнаму каштарысу 41 проц. агульных выдаткаў рэспублікі, па мясцоваму каштарысу—37 проц.

Цікава пазнаёміцца больш падробна з культурна-асьветнымі ўстановамі БСРР. Вось цыфровыя даныя аб іх на 1 студзеня сёлетняга 1925 г.

Цэнтральнае Статыстычнае Упраўленьне БСРР абсьледавала ўсіх відаў установы народнай асьветы Беларусі. Не абсьледаваны: па гарадох—4 проц. і па вёсках—6 проц. Паводле гэтых дасьледаў дашкольная і школьная справа ў БСРР прадстаўляецца так:

| Катэгоры устаноу, абсьледаваных на 1 студзеня 1925 г. | Лічба абсьледаваных устаноу | Настаунікау | ВУЧНЯУ Усяго | Хлапцоу | Дзяучат |
|---|---|---|---|---|---|
| Дашкольных устаноу . . | 37 | 100 | 1619 | 776 | 843 |
| Устаноу аховы дзяцей . . | 81 | 439 | 5099 | 2657 | 2442 |
| Прымітыун. школ . . . | 3546 | 4712 | 233215 | 171267 | 61948 |
| Сямехгодак няпоуных . . | 127 | 976 | 27495 | 15713 | 11782 |
| „ поуных . . . | 170 | 2412 | 63504 | 33210 | 30294 |
| Агульна-адукац. курсау . | 13 | 153 | 2345 | 1065 | 1280 |
| Школа для сялянск. моладзі | 6 | 22 | 210 | 182 | 28 |
| Праф-тэхнічн. школ . . . | 21 | 215 | 1777 | 1545 | 232 |
| Тэхнікумау . . . . , . . | 23 | 437 | 3850 | 2215 | 1635 |
| Прафэсыян. курсау . . . | 2 | 20 | 228 | 158 | 70 |
| Вучэбных майстэрняу . . | 8 | 41 | 390 | 268 | 122 |
| Аб'яднан. тэхн. і прафэс. . | 1 | 21 | 123 | 106 | 22 |
| Вузау . . . . . . . . | 7 | 413 | 4633 | 3234 | 1399 |
| А усяго па БСРР | 4042 | 9961 | 344493 | 232396 | 112097 |

Праца ў кірунку беларусізацыі культурнаасьветных устаноў, якія абслужваюць беларускае насяленьне, разьвіваецца з кожным годам усё шырэй. Аб гэтым сьведчаць пастановы Савета Народных Камісараў БСРР „аб практычных мерапрыёмствах па правядзеньню нацыянальнай палітыкі ў галіне народнай асьветы ў 1925-26 навуковым годзе“, з якіх бяром пункты, што датычаць беларусізацыі школ:

### Па сацыяльнаму выхаваньню.

Савет Нар. Камісараў пастанавіў:

Увесьці **выкладаньне на беларускай мове ва-ўсіх працоўных школах БСРР, у якіх вучацца дзеці беларускай нацыянальнасьці**, на абшарах, што далучаны ў 1924 г.—у першых 3-х групах, а ў рэшце мясцовасьці,—ва ўсіх групах.

У тых сямёхгадовых школах, дзе ў малодшых групах беларуская мова не выкладалася, **павялічыць лік навучальных гадзін беларускае мовы**—да шасьці ў тыдзень.

**Увесьці, як прадмет выкладаньня, беларускую мову ва-ўсіх 4-хгадовых школах усіх нацыянальных меншасьцяў**, пачынаючы з другога году выкладаньня, а расейскую мову — ва-ўсіх 4-хгадовых школах, пачынаючы з 4-га году навучаньня.

Высьветліць насяленьню важнасьць і карыснасьць навучаньня дзяцей у роднай мове, ня ўжываць, аднак, ніякіх мер прымусу.

У школах сялянскай моладзі, дзе большасьць беларусаў, перайсьці на беларускую мову. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы распрацаваць пытаньне аб адчыненьні школ сялянскай моладзі на польскай мове (?!).

### Па прафэсыянальна-тэхнічнай асьвеце.

**Перавесьці цалком выкладаньне на беларускую мову ва-ўсіх беларускіх пэдагагічных тэхнікумах.**

Зьвярнуць увагу на выкладаньне беларускае мовы, а таксама гісторыі і географіі Беларусі ў польскім і жыдоўскім пэдагагічных тэхнікумах.

Апрацаваць плян пераводу выкладаньня на беларускую мову ў сельска-гаспадарчых школах, распачаўшы часткова выкладаньне ў наступным 1925-26 г.

Перавесьці выкладаньне на беларускую мову на 1-м курсе рабфаку.

Прапанаваць прафэсуры, дацэнтам, асыстэнтам і навуковым працаўнікам вышэйшых навуковых устаноў з 1-га кастрычніка 1926 г. падрыхтавацца да выкладаньня і вядзеньня навуковай працы з студэнтамі на беларускай мове.

Даручыць Інстытуту Беларускай Культуры ўстанавіць і выдаць аднастайную тэрміналёгію для ўжываньня ў вышэйшых школах, тэхнікумах ды прафшколах.

### Па паліт.-асьвеце.

Перавесьці цалком на беларускую мову выкладаньне: у Магілёве—савецкую партыйную школу, часткова—у камуністычным унівэрсытэце Беларусі ім. Леніна і ў Віцебску—партыйнай школе 2-ой ступені.

Павялічыць лік гадзін выкладаньня беларускае мовы, гісторыі, географіі на польскіх і жыдоўскіх аддзяленьнях партыйнае школы.

Ліквідаваць няпісьменнасьць на роднай мове.

Агітацыйныя кампаніі сярод рабочых і сялян праводзіць на іх роднай мове.

Павялічыць рэпэртуар Беларускага Дзяржаўнага Тэатру і забясьпечыць п'есамі вясковы тэатр.

Распачаць выданьне кіно-фільм з жыцьця Беларусі і дэманстраваць усе фільмы з напісамі на беларускай мове.

Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы дайсьці да згоды з Камісарыятам Унутраных Спраў апрацаваць сетку курсаў дзеля навучэньня беларускае мовы служачых сельсаветаў, райвыканкомаў і акрвыканкомаў. Устанавіць і ўнесьці гэту сетку ў каштарыс наступнага бюджэтнага году па дзяржаўнаму бюджэту.

## Юрыдычныя парады.

### Падпішчыку А. Т. Я.

*Запытаньне*: Мы, грамадзяне вёскі Буллы, у 1911 годзе зямлю сваю падзялілі на хутары. Дзеля таго, што зямля неадзінакавая, то тым, якія атрымалі блажэйшую, была зроблена прырэзка ад казённае зямлі Косаўскага лясьнічаства. Карысталіся зямлёю гэтаю аж па цяперашні час. Але вось, знайшоўся падлесны п. Барнацкі і гэтае зямлі ўрабляць нам не даець, гаворачы, што тое, што даў даўней царскі ўрад, ня лічыцца, а ён будзе лічыцца толькі з тым, што дасьць паньства Польскае. Есьць у нас картачкі ад Землястраіцяльнай Камісіі, гдзе ўказана за што мы атрымалі гэтую зямлю. Калі-ж мы паказалі іх гэтаму пану Барнацкаму, ён зьдзёр з нас па 2 зл. гэрбавых з кожнага. Карыстацца-ж зямлёю гэнаю не даець, а калі хто папрабуе шчасьця, то пішуць пратаколы і судзяць. Некаторым прысудзілі ўжо па 20 злотых.

Што рабіць і куды зьвярнуцца, каб можна было карыстацца гэтаю зямлёю?

*Адказ*: Калі ёсьць якія дакумэнты з землястраіцельнай камісіі, то можа што і ўдалося б зрабіць; трэба зьвярнуцца да Акружнага Ураду лясоў. (Okręgowy Urząd Lesów Państwowych).

### Падпішчыку № 1522.

*Запытаньне*: Па сьмерці свайго мужа, я з двума дзяцьмі засталася пры сьвёкру і малодшым брату свайго мужа, які жанаты і таксама мае дзяцей. Зямлі 6 дзесяцін надзельнае і 5 дзесяцін купленае. Адна дзесяціна куплена на мой пасаг. Заверана яна ўся на сьвёкра. Ці маю я права пры дзеляжы карыстацца як тою, так і другою зямлёю, гаспадарчымі прыладамі і якою часьцью, і ці мае права сьвёкар запісаць купленую зямлю малодшаму сыну?

*Адказ*: Як надзельную, так і купленую зямлю сьвёкар можа запісаць, каму захоча.

### Падпішчыку № 1232.

*Запытаньне*: Ці мае права тубальная матка, мужык у якой быў прымак і памёр у 1911 годзе, узяць на сябе часьць пры разьдзеле гаспадаркі яе сынамі? Калі мае то якую? І якою часьцю мае права карыстацца незамужняя сястра?

*Адказ*: Калі бацька быў прымаком, то значыцца, што зямля матчына і пакуль яна жывець, сыны ня маюць права дзяліць зямлю.

## Паштовая скрынка.

Атрымана: Ад:—Уладзімера Каляды, К. Сьвятавастокава, Кал. Буфоту, Базыля Пашка, Барыса Блашчаніцы, Уладзімера Павалковіча, Ціхана Бухоўца, Васіля Молаша, Уладзімера Кныша, Макара Сокалава, Лукі Курдваноўскага, Юльяна Стрыхара, Антона Грыкі, Паўла Самайловіча, Юстына Мурашкі, Канстан. Шымкевіча—**па 2 злоты.**

Ад:—Я. Дзямешкі, М. Абрамчыка—**па 3 зл.**

Ад:—С. Мазурэка, В. Катовіча, Базыля Мацыновіча, Яна Ракевіча, Ганны Бародзінай, Міхала Ключановіча, Барыса Бройкі, П. Сеўрука, Аніськевіча—**па 4 злоты.**

Ад:—Д. Дожына, А. Кавалеўскага, З. Норык, Яна Шэйбака—**па 5 злоты.**

Ад:—кс. Я. Семашкевіча і Алёны Кананович—**па 10 злоты.**

Ад: —Рыгора Варонкі і Рамана Каралевіча—**1 зл.**

Ад:—Аўгеньні Сухой—**6 зл.**

Канстантаму Гойдзу.—Грошы ад Вас абодва разы атрыманы; на 2 злоты было паквітаваньне ў № 8, а на 4 зл. у № 18 „Ж. Бел.“. Да Новага Году належыцца ад Вас 4 зл.

---

Ф. Клаўсуцю.—Грошы атрыманы; даўгу ня маеце. „Гародніцтва“ вышлем 2-га студня.

„Сяляніну“, Наваградскага павету.

Караспадэнцыю Вашу „Агарны поп“ не зьмясьцілі. Трэба, акрама псэўдоніма, пісаць адрас і правідловае прозьвішча і імя.

**ПАВАЖАНЫЯ ГРАМАДЗЯНЕ ПАДПІШЧЫКІ!**

**Як найхутчэй, пасьпяшыце з прысылкай грошы за газэту. Істнаваньне яе залежыць ад Вас. Хто адашле доўг, а таксама і падпіску да новага году, той атрымае кніжку Янкі Пачопкі „ГАРОДНІЦТВА“. „Як трэба гаспадарыць на гародзе, каб мець добрае варыва„.**

**Адміністрацыя.**

Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.